22 ЧЭРВЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№68 (599) КОШТ СВАБОДНЫ




# Фальстарт

## В пятницу произошла сенсация, которая впоследствии обернулась скандалом

**Николай ХАЛЕЗИН**

**Вечером 18 июня эфир белорусской службы радио «Свобода» взорвался сенсацией — прозвучало сообщение, что Семен Шарецкий объявил состав нового белорусского правительства. Но уже спустя полчаса Председатель Верховного Совета в разговоре с корреспондентом НАВІНАЎ предположил, что за этой дезинформацией стоят белорусские спецслужбы.**

### Новое назначение

В материале, автором которого был известный журналист Владимир Глод, говорилось о том, что Верховный Совет активно занят формированием нового правительства. По версии автора, его состав должен возглавить директор российского производственного объединения «Рубин» Анатолий Лашкевич.

Анатолий Владимирович известен в Беларуси как экс-секретарь Партии коммунистов белорусской. Еще два года назад он возглавлял одну из крупнейших в Минске компаний — акционерное общество «БелМена» — и отвечал в ПКБ за финансовое благополучие партии. Но после того, как нынешние белорусские власти развернули травлю преуспевающей фирмы, Анатолий Лашкевич перебрался в Москву и не без помощи Геннадия Зюганова стал директором ПО «Рубин», производящего телевизионную технику.

В материале, прошедшем по радио «Свобода», были названы еще три члена нового правительства: председатель Нацбанка — Станислав Богданкевич, генеральный прокурор — Мечеслав Гриб и председатель Госконтроля — Владимир Нистюк. Ни один из «кандидатов» на ответственные посты не подтвердил информацию о том, что с ним велись переговоры или консультации о назначении.

Депутаты Верховного Совета действительно собирались для консультаций в пятницу, 18 июня, но обсуждали они лишь процедуру проведения собрания депутатов ВС 23 июля. О «точности» информации, прошедшей по радио «Свобода», говорит и тот факт, что Станислав Богданкевич находился в день «назначения» за пределами Минска. Он узнал о том, что «возвращается» на ответственный пост, от корреспондента НАВІНАЎ спустя два дня.

### Именем революции

До окончания срока президентских полномочий остался месяц, и ситуация все более накаляется. Нервы напряжены как у представителей власти, так и у оппозиции. Сегодня для того, чтобы произошел взрыв, уже не нужно поджигать рейхстаг, а достаточно бросить непогашенный окурок — торфяник моментально воспламенится.

Навряд ли новый виток эскалации будет спровоцирован оппозицией — ее позиция как никогда конструктивна. На недавней встрече в Бухаресте, проведенной минской группой ОБСЕ, все представители оппозиционных партий, движений и общественных организаций заявили о готовности идти на переговоры с властями. Проблема в малом — властные структуры не приемлют диалога, уповая на силовое решение конфликтных ситуаций. И именно власти сегодня являются тем самым окурком, который может привести к пожару.

Следует учесть и крайне сложную ситуацию внутри властных структур. В руководстве идет перманентная борьба между «либералами», возглавляемыми главой администрации Михаилом Мясниковичем, и «ястребами», под предводительством секретаря Совета безопасности Виктора Шеймана. Накануне роковой даты 20 июля белорусский президент однозначно поставит на «ястребов», что приведет к эскалации напряжения.


«Премьер-министр» **Анатолий Лашкевич** и автор его «назначения» **Владимир Глод**

### Общество с неограниченной ответственностью

На протяжении последних месяцев шла зачистка политического поля: пропали Тамара Винникова и Юрий Захаренко, арестован Михаил Чигирь, представителями РНЕ были избиты активисты Хартии'97, под невиданные ранее репрессии попали члены избирательных комиссий во время выборов 16 мая. Опасность материала, который вышел в эфир радио «Свобода», очевидна — четыре политика поставлены под удар. И если Анатолию Лашкевичу, живущему в Москве, ничего не грозит, то Станислав Богданкевич, Мечеслав Гриб и Владимир Нистюк оказались в положении, подобном положению Михаила Чигиря накануне выборов 16 мая.

Сегодня творится история. Каждое действие, каждое произнесенное слово может изменить ход новейшей белорусской истории. И ответственность за то, что происходит в стране, лежит на всех — представителях власти, оппозиционных политиках, журналистах. Об этом нельзя забывать — иначе мы никогда не выберемся из болота, над которым никогда не восходит солнце. ■

**Семен ШАРЕЦКИЙ, Председатель Верховного Совета:**

— Ни на каком уровне не существует решения о назначении правительства. Никакого разговора о назначении кабинета министров не может быть до того, как истечет срок полномочий ныне действующего президента. Материал на радио «Свобода» появился либо по недомыслию автора, либо по злому умыслу, с намерением торпедировать попытку начала диалога между властями и оппозицией. Я не знаю, из каких источников черпает информацию Владимир Глод, но в этом его материале нет и слова правды. Здесь уместно напомнить журналистам о том, что необходимо тщательно проверять информацию, которая выносится на аудиторию, — ведь иногда одна неосторожная фраза может поставить людей под удар.



ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Васіль Быкаў днямі можа прыехаць у Мінск

23 чэрвеня а 18-й гадзіне ў сталічным Доме літаратара адбудзецца вечарына, прысвечаная 75-м угодкам з дня нараджэння Васіля Быкава. Верагодна, бліжэйшымі днямі Васіль Быкаў, які цяпер жыве і працуе ў Фінляндыі па запрашэнні мясцовага ПЭН-цэнтра, прыедзе ў Мінск.

### Стывена Кінга збіла машына

Вядомы амерыканскі пісьменнік, аўтар больш чым 30 «ужасцікаў» Стывен Кінг трапіў пад машыну і цяпер у цяжкім стане знаходзіцца ў шпіталі. Стывен Кінг атрымаў цяжкія пашкоджанні, калі выйшаў прагуляцца побач са сваім летнім домам у Портлендзе, ЗША. Цікава, што адзін з яго раманаў расказвае пра пісьменніка, які патрапіў у аўтакатастрофу, быў цяжка паранены, а пасля аказаўся ў палоне ў аматаркі сваіх кнігаў.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

### Кубак Стэнлі ў Даласа

Вельмі напружаным выдаўся апошні матч фіналу кубка Стэнлі, у якім каманда «Далас старз» толькі ў трэцім дадатковым перыядзе здолела закінуць шайбу і здабыць перамогу з лікам 2:1 над сапернікамі з Бафала. Агульны лік фінальнай серыі — 4:2 на карысць «даласскіх зорак».

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

наша свабода

НАДВОР'Е




**23 чэрвеня** па **Гродзенскай** і **Брэсцкай** абласцях чакаецца пераменная воблачнасць, кароткачасовыя навальнічныя дажджы. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +14—+19. Па астатніх абласцях пераменная воблачнасць, уначы без ападкаў, удзень у асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с, пры навальніцах — да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13-+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**435 000**

МЕРКАВАННІ


Станіслаў ЛЕМ

# Гонар пачвары

## Станіслаў ЛЕМ, фрагменты з артыкулаў у Tygodnik Powszechny

### У катле

Колькі дзён таму Мілошавіч паспрабаваў паспешліва, з наскоку, стварыць сербска-расійска-беларускую федэрацыю. Ельцын адмовіў, але ён на дзіва нясталы: яшчэ ў чацвер сцвярджаў, што не можа ісці размовы пра ваенны ўдзел Расіі ў балканскім канфлікце, а ў пятніцу змяніў погляд на 180 градусаў, паведаміўшы, што загадаў зноўку ўзяць на прыцэл усе краіны NATO. Ягоны начальнік штаба адразу ж гэта абвергнуў — і зрабіў вельмі разумна. Было б відавочна змрочным і страшлівым парадоксам, калі б сапраўды магло дайсці да чарговай сусветнай вайны, першай з двухбаковым ужыццем ядзернай зброі. Вайна была б непараўнальным з нічым няшчасцем; але ёсць аднак вельмі маламагчымай — можа, які адзін ці паўтара працэнта на сто — а яе эфект стаўся б для Расіі непрыемны: на доўгі час яна перастала б існаваць як дзяржава, а яе абшары акрэсліваў бы бачныя ў ночы папялішчы. Працілеглы бок, зрэшты, таксама мусіў бы панесці значныя страты. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## АЎТОРАК з Кастусём ТАРАСАВЫМ



### 22 чэрвеня

Ёсць шмат людзей, якія сёння будуць смуткаваць па родных і сваяках,аднятых той вайной, якая ў нас імянуецца Вялікай Айчыннай, а ва ўсім свеце – Другой сусветнай. Сусветная пачалася на 22 месяцы раней, і была блаславёная сакрэтным пратаколам пра перадзел еўрапейскіх межаў на карысць Германіі і СССР. Яна ўцягнула ў смяротны вір 61 дзяржаву, заняла 6 гадоў і яшчэ адзін дзень, забрала 60 мільёнаў жыццяў, з гэтага ліку 2,6 мільёна на Беларусі.

Ужо 1 верасня 1939 года шмат заходніх беларусаў у польскім войску ваявалі проці немцаў, а з 17 верасня – проці Чырвонай арміі. Потым, узятыя ў палон немцамі, гінулі ў канцлагерах, а паланёныя «саветамі» – знішчаліся карнікамі НКУС у Катыні.

Паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 быў сумесны парад нямецкіх і савецкіх войскаў у Брэсце, адбылася савецка-фінская вайна (Айчынная для фінаў), былі прылучаныя да Саюза і адпаведна зведалі рэпрэсіі прыбалтыйскія краіны. А пасля 9 траўня 1945 года эшалоны паімчалі з Захаду на Усход, дзе праз два дні пасля Хірасімы СССР абвясціў вайну Японіі. Сёння старыя маці, сёстры, браты палеглых будуць плакаць над «пахаванкамі» вызваліцеляў Сахаліна, Курылаў, Порт-Артура, атрыманымі ў жніўні і верасні 1945 года.

22 чэрвеня – гэта слёзы і журба, на якія ўжо мала хто зважае. Даўно, маўляў, было. Напішуць слова ў газеце. Пакажуць па тэлевізіі фільм «Я – русский солдат» (а ўкраінскія, беларускія, казахскія, грузінскія, татарскія салдаты ВАВ ужо не ў разлік). Чалавецтва скарылася, што нядольнае вучыцца на бедствах папярэднікаў. Разбураная гаспадарка, 60 мільёнаў палеглых, канцлагеры, абажуры з чалавечай скуры, вогненныя вёскі не пэўшчапілі народам нянавісці да праяваў агрэсіі. Немцаў зрабіла вар'ятамі ідэя стварэння Вялікай Германіі, праз чатыры дзесяцігоддзі ідэя Вялікай Сербіі ператварыла мноства сербаў у такіх жа ваенных злачынцаў. Вынішчэнне сабе падобных пасля 1945 года захавала ўсе ранейшыя ідыёцкія абгрунтаванні: дзеля славы ісламa, дзеля славы святой праваслаўнай веры, за праваслаўзацыю, дзеля дэмакратыі ў Паўночным В'етнаме, дзеля сацыялізму ў Паўднёвым, за сепаратызм, за мір ва ўсім свеце, за тое, што чачэн, афганец, баснієц, албанец, за тое, што жывы і здаровы. І гэтак бясконца.

Колькі людзей загінула, колькі гора вытрывана, аднак амбіцыі ўладароў, жывёльная ганарлівасць, драпежніцкая абыякавасць да іншага жыцця пануюць у свеце, як тое было пяцьдзесят восем гадоў таму. Нея к і не можацца думаць пра іншае 22 чэрвеня.

# Яшчэ адзін палітэмігрант?

## Старшыня рады Саюза пісьменнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомы паэт Уладзімір Някляеў заявіў у Польшчы, што не збіраецца вяртацца ў Мінск

**Мікіта ЯГОРАЎ**
**(з выкарыстаннем БелаПАН)**

**Старшыня рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, які знаходзіцца зараз у Варшаве, прыняў рашэнне не вяртацца ў Беларусь. Пра гэта ён паведаміў у нядзелю, 20 чэрвеня, групе журналістаў у сталіцы Польшчы.**

Уладзімір Някляеў выехаў у Варшаву для ўдзелу ў міжнародным семінары ПЭН-клуба. Паводле ягоных слоў, на мінулым тыдні па-сяброўску настроены да яго чалавек з прэзідэнцкай адміністрацыі паведаміў, што супраць яго рыхтуецца правакацыя, якая можа закончыцца ўзяццем пад варту. Гэты чалавек, у прыватнасці, удакладніў, што Някляева «маглі падаць як горкага п'яніцу, які не ведае, што робіць», альбо навесіць на яго фінансавыя абвінавачанні.

Апошняе зрабіць было проста, паколькі Уладзімір Някляеў 10 гадоў быў галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца» («Родник») і апошні год узначальваў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Аднак, па словах Някляева, не гэта стала галоўным штуршком для яго рашэння аб невяртанні на радзіму. У гутарцы з журналістамі 20 чэрвеня ён сказаў, што пасля пяці гадоў ілюзіяў адносна сённяшняй улады ён, нарэшце, зразумеў: дыялог з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам немагчымы. Паводле ягоных словаў, прэзідэнцкае атачэнне складаюць людзі, для якіх абсалютна абыякавы лёс беларускай мовы, культуры, літаратуры.

На гэтым тыдні ў Варшаве старшыня рады Саюза беларускіх пісьменнікаў мяркуе правесці прэс-канферэнцыю, на якой адкажа на ўсе пытанні журналістаў адносна матываў прынятага ім рашэння пакінуць Беларусь. ■



Уладзімір Някляеў

# Ствараецца камітэт у падтрымку Міхаіла Чыгіра

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

У Мінску заснаваная ініцыятыўная група па стварэнні рэспубліканскага камітэта «Свабоду Чыгіру і Беларусі». Заяву пра стварэнне камітэта падпісалі больш за трыццаць вядомых у Беларусі асобаў – сярод іх палітыкі Станіслаў Шушкевіч, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Багданкевіч, паэт Генадзь Бураўкін. У якасці галоўнай мэты аргкамітэт вызначыў вызваленне Міхаіла Чыгіра, а таксама Андрэя Клімава, Уладзіміра Кудзінава ды іншых палітвязняў. Заяўлена і пра намер дамагацца галоснага расследавання знікнення Юрыя Захаранкі і Тамары Вінніківай. Аргкамітэт звярнуўся да міжнароднай супольнасці з заклікам выказаць салідарнасць з барацьбой за вызваленне палітычных вязняў Беларусі. Ініцыятыўная група распачала работу па рэгістрацыі камітэта «Свабоду Чыгіру і Беларусі» ў якасці грамадскай арганізацыі.

Тым часам жонка былога прэм'ера Юлія Чыгір паведаміла, што са справай яе мужа адбываецца дзіўныя рэчы. Праглядаючы матэрыялы справы як адвакат, Юлія Станіславаўна натрапіла на пратакол допыту свайго мужа. Гэты дакумент яна лічыць фальшыўкай, бо Міхаіл Чыгір з першага дня арышту ніводнага разу не ўдзельнічаў у допытах.

Юлія Чыгір паскардзілася на следчых генеральнаму пракурору А.Бажэлку, але той не адказаў. Зараз Юлія Чыгір рыхтуе адкрыты ліст да спадара Бажэлкі, да якога «інакш не прабіцца». ■



**ЦЫТАТА НУМАРА**

**Как Брежнев неизбежно превратился в мелкого политического деятеля времен Сахарова и Солженицына, так Лукашенко будут называть малоизвестной фигурой эпохи Быкова и Алексиевич.**

*Архип АНГЕЛЕВИЧ*
*Газета «Известия», 19 июня 1999г.*

# З'езд БНФ пачнецца 31 ліпеня

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

На чарговым паседжанні сойму БНФ створаны аргкамітэт па правядзенні шостага з'езда БНФ. З'езд БНФ павінен адбыцца 31 ліпеня – 1 жніўня гэтага года. Меркавалася, што ўзначальваць аргкамітэт па яго правядзенні будзе выконваючы абавязкі намесніка старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. Аднак ён узяў самаадвод, і кіраўніком аргкамітэта быў абраны намеснік старшыні Народнага Фронту Вінцук Вячорка. Аргкамітэту рэкамендавана цесна каардынаваць сваю работу з лідэрам арганізацыі Зянонам Пазьняком, які знаходзіцца ў эміграцыі. ■

# В Литву с медицинским полисом

**Отдел информации**

МИД Литвы официально уведомил белорусскую сторону о вступлении в силу с 1 июля закона «О правовом положении иностранцев». В соответствии с положениями данного закона, иностранные граждане будут въезжать на территорию Литвы только при наличии медицинского страхового полиса.

В связи с этим визы на въезд в Литовскую Республику, действительные с 1 июля 1999 года, будут выдаваться только при предъявлении в дипломатическое представительство или консульское учреждение всех документов, необходимых для получения визы, и медицинского страхового полиса. ■

# Яшчэ адзін год апазіцыянеру

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

На адзін год пазбаўлення волі ўмоўна асуджаны старшыня Гомельскай абласной выбарчай камісіі Яўген Мурашка. Суд прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні злачынства па артыкуле 196, але ўлічыў, што ў Мурашкі чацвёра дзяцей, і вырашыў не пазбаўляць яго свабоды на час адбыцця пакарання.

Сам Мурашка выказаў меркаванне, што ў ягоным асуджэнні не ў апошнюю чаргу вінаваты старшыня ЦВК Віктар Ганчар, пратаколы допытаў якога скарысталі суддзі пры асуджэнні апазіцыянера. ■

# Задержанная на 50 лет «зарплата»

**Егор ИВАНОВ**

Сегодня в Бонне состоится первое заседание рабочей группы «Принудительные работы. Рабский труд». В заседании примут участие представители Германии, США, Израиля, России, Украины, Чехии, Польши, а также делегация Беларуси. Основной вопрос, который будет обсуждаться на заседании рабочей группы, – организация выплат из общегерманского фонда промышленных предприятий гражданам Беларуси, России, Украины, Польши, Чехии, Израиля, в годы войны работавшим на германских предприятиях.

Фонд создается под эгидой и при участии правительства Германии с целью преодоления последствий Второй мировой войны и обеспечения правовой защищенности германских предприятий, которым грозят многочисленные судебные иски со стороны бывших подневольных рабочих. ■

**ВАЙНА**

# Гарачых косаўскіх хлопцаў будуць раззбройваць

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Учора зранку NATO падпісала пагадненне з Арміяй вызвалення Косава аб раззбраенні косаўскіх баевікоў. Міратворцы з K-For ужо пачалі канфіскоўваць першыя «стваты».

Гэта новы этап усталявання міру ў Косава. Крыху раней NATO афіцыйна адмовілася ад далейшых бамбардзіровак Сербіі ў адказ на поўны вывад сербскіх войскаў з правінцыі.

У адпаведнасці з пагадненнем, баевікі АВК мусяць здаць цяжкую зброю на працягу месяца, а потым у іх ёсць яшчэ два месяцы, каб здаць свае «калашнікавы» і пісталеты. Апроч таго, баевікі не мусяць больш з'яўляцца «на публіцы» ў сваёй уніформе. ■

**СПОРТ**

# Шэрая гульня – шэрыя вынікі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

З параженняў пачалі ўдзел у еўракубках беларускія футбольныя клубы. У рамках кубка Інтэртота спачатку віцебскі «Лакаматыў-96» на «сваім» полі ў Мінску прайграў з лікам 1:2 харвацкаму «Вартэксу», а пасля ў чэшскім Градзец-Кралаве наш «Гомель» саступіў 0:1 мясцоваму футбольнаму клубу. Абедзве нашыя каманды не паказалі выразнай гульні, і вынікі цалкам заканамерныя.

Можна ўспомніць, што за ўвесь мінулы год беларускія футбольныя клубы не перамаглі ні ў адной гульні, затое паразаў з буйным лікам, наадварот, хапала, і сёлетнія няўдачы сталі проста лагічным працягам леташніх паражэнняў. ■

# Гонар пачвары

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Дзівіць мяне нахабная ўтрапёнасць Ельцына. Інтарэсам Расіі ёсць найперш паляпшэнне стасункаў з Захадам, а не іх пагаршэнне. Спроба Масквы выступіць у ролі арбітра скончылася нічым; паводле ўцечак інфармацыі, уплыў Прымакова на Мілошавіча быў мінімальным. Да акцыі этнічнага вынішчэння, ці проста людабойства, Мілошавіч разам са сваім войскам і ўзброенымі фарміраваннямі рыхтаваўся ад даўняга часу.

Некаторыя лічаць, што інтэрвенцыя NATO супярэчыць праву, паколькі Югаславія была суверэнная краіна, а тое, што хацела паздзеквацца ці выгнаць частку ўласнага насельніцтва — гэта яе справа. Дык вось прыгадваю, што сярод вялікай колькасці яўрэяў, знішчаных у часе вайны, былі тысячы грамадзянаў нямецкай дзяржавы — і за гэтыя злачынствы вінаватых пасля вайны праследвалі. Такім чынам, і тут існуе прэцэдэнт.

## Перавагі аўтакратыі

Калі дэмакратыя змагаецца з аўтакратыяй, апошняя мае пры сабе вялікія козыры. Калі Мілошавіч пастановіць, што трэба зрабіць так і так, робіцца так і так. Тым часам другі бок будзе радзіцца, абмяркоўваць і спрачацца, тым болей, што кожная з дзевятнаццаці краінаў NATO мае крыху іншыя прыватныя інтарэсы. Гэта бачна ў справе нафтавага эмбарга, якое вырашылі ўвесці пасля доўгай падрыхтоўкі, але ягоная эфектыўнасць ад пачатку здаецца невялікай.

Магчыма, і добра, што мы засталіся прынятыя ў NATO ў момант, які не ёсць надта фотагенічны, бо выразней відаць пагрозы. У апошнім нумары часопіса Wprost упершыню ўбачыў аблічча пані дэпутаткі Навіны-Каноп'чыны; працытавана там яе выказванне, што нашыя біскупы не ведаюць наогул, што ёсць Еўропа. Вынікае з таго, што мы павінны зараз жа схавацца пад крыло Лукашэнкі, тады ўсё будзе выдатна. Праўдзьвіды, жывём у такі час, што асобная краіна, якая да нікога не прытуліцца, мае не надта шанцаў на існаванне.

## Барада Фідэля

Калісьці чытаў, што ЦРУ планавала ліквідаваць Фідэля Кастра, сыпануўшы яму ў боты спецыяльны парашок, дзякуючы якому кубінскі правадыр страціў бы ўсе валасы з барады, а праз гэта і харызму. План не ўдаўся, бо Кастра штодзённа мые ногі...

Я не надта крыважэрны, але хацеў бы, каб Мілошавіча павесілі — калі з ім нічога не зробіць, гэта будзе зларесны знак для надыходзячага стагоддзя і доказ поўнай беспакаранасці. Пры ягонай хітрасці і адначаснай нерашучасці Захаду ніякая кара, аднак, яго не спаткае.

Калі сербскія маніфестанты кляліся спаць на масты са шчытамі-мішэнямі, ганарлівa прымацаванымі да грудзей, рабілі гэтак, добра ведаючы, што NATO стараецца як мага болей пазбягаць так званай пабочнай шкоды, іншымі словамі — ахвяраў сярод цывільнага насельніцтва. Зараз сербскае войска пасягае на жывыя шчыты з косаўскіх албанцаў. Што ў такой сітуацыі найбольш прыдатнае? Слушнай інавацыяй было прымяненне NATO бомбаў, якія людзям непасрэдна не шкодзяць, раскідваючы ў той жа час графітавыя валокны, якія спрычыняюць паўсюдна кароткае замыканне ўсяго, што звязанае з электрычнасцю. Сербаў гэта досыць дапякала.

Найлепшым спосабам паратунку чалавецтва было б выкрыццё здольных масава распаўсюджвацца сілаў, поляў ці з'яваў, якія ўнемагчымяць запал усіх прынятых канвенцыямі ядзерных бомбаў, як уранавых, так і вадародных. Гэта не ёсць цалкам немагчымае, бо мы ўвайшлі ў эпоху незвычайных адкрыццяў у сферы фундаментальных навук. Калі б раптам аказалася, што ўся атамная зброя не вартая ломанага грошa, дык у сусветнай палітыцы адбыліся б велізарныя змены. Знікла б боязь перад атамнымі тэрарыстамі, а на Расію пачалі б глядзець як на вялікую звалку, па якой мітусяцца паўпрытомны Ельцын разам з невялікай колькасцю мільярдэраў і мафіёзаў.

## Гонар пачвары

Масавыя забойствы людзей не павінны пазбегнуць пакарання; аднак выходзіць на тое, што Мілошавіч застанецца пры ўладзе з непашкоджаным гонарам як выключна шляхетны забойца, які наўмысна і цярпліва працягваў справу вынішчэння. Гіганцкі супергордзіеў вузел, якім ёсць балканскі крызіс, выдае змрочнае сведчанне сучаснай палітыцы, паказвае яўную перавагу любові да ўлады і жадання ўтрымацца на крэслы над няшчасцямі любога маштабу. Дазволю сабе звярнуцца да Старога Запавету і апавесці пра Садом і Гамору: з вялікай прыемнасцю пабачыў бы вогненны дождж, абрынуты не толькі на сербаў, але і на розныя еўрапейскія сталіцы.

***Пераклад з польскай і фота для НАВІНАЎ Віктара ЯЗЭПОВІЧА***




Станіслаў Лем — чытач НАВІНАЎ

ДЫЯГНАЗ

## СуперМММ



Александр ПОТУПА

Иные катастрофы в Российской Стране Пирамид происходили с просто-таки всемирным грохотом. И персоны вроде владельца МММ Сергея Мавроди или хозяйки «Властилины» Валентины Соловьевой становились как бы былинными героями. В Белорусской Стране Пирамид все куда как скромнее — счет идет не на миллиарды долларов, а на скромные сотни тысяч или какой-нибудь миллиончик. Коего по этому поводу попадает в следственный изолятор, но в целом все тихо-благородно, куда нам, дескать, до грандиозных российских масштабов. Однако дело в том, что нашим частным пирамидкам далеко и до отечественных государственно-инфляционных.

За 5 месяцев текущего года официальная инфляция составила 173,7%. В среднемесячном исчислении это примерно 111,7%, в среднегодовом — 376,3%. Грубо говоря, каждый месяц цены растут на 12%, а за год они подпрыгнут почти в 4 раза. Более наглядно: вкладчик Сбербанка, имевший на 1 января 1999 года срочный годовой вклад размером в 1 миллион — аж под 70% годовых — может получить через год действительно 1 млн. 700 тыс. рублей, но купить на них сумеет только как на 452 тысячи в момент, когда черт дернул его совершить вклад. И вы полагаете, у него возникнет вопрос: куда, собственно, делась половина моих кровных денег? Ни в коем случае! Более того, он понесет в банк очередной миллион. Вот почему каждый наш «рублевый вкладчик» имеет полное право на звание *заслуженного простого человека РБ*.

И только благодаря его святой и непорочной вере Национальный Банк имеет право на звание *народного простого банка РБ* (хорошее сокращение: *«Простонародбанк»*). На 1.01.1999 родное правительство задолжало ему 65 триллионов рублей (сейчас уже порядка 80). При нормальной индексации, просто компенсирующей инфляцию, этот долг за 5 месяцев должен вырасти до 113 трлн. руб. Вырос? Смеяться изволите... Разница в 48 триллионов как бы растворилась в воздухе. А это на сегодня — примерно 100 миллионов долларов по чернорыночному курсу или целых $200 млн. по курсу официальному. На фоне отчаянной борьбы с невозвратом кредитов, в ходе которой более сотни банкиров и фирмачей осело в следственных изоляторах, эти данные показывают: государство не мелочится. Его за какие-то $10-20 тысяч неудачно использованного кредита на вонючие нары не посадишь, оно, кажется, в офисе последнего своего клерка завершает евроремонт.

Впрочем, и многие наши предприятия могут успешно претендовать на высокое звание *заслуженно-народного простого предприятия РБ*. На начало года их суммарные рублевые депозиты (срочные и до востребования) составляли более 95 триллионов рублей. И даже с учетом депозитных процентов потери опять исчисляются сотнями миллионов долларов.

И в такой ситуации наша истинно *всенародно-простонародная Президентура* изволит многократно подчеркивать верность избранному ею экономическому пути. Как говорится, туда нам всем и дорога... ■

ЭКАНОМІКА

## Сусветны банк разлічвае на дыялог з Беларуссю

### Але дакрычацца да беларускіх уладаў не так проста

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Сусветны банк вырашыў змяніць сваю тактыку работы з Беларуссю і аднавіць пасаду сталага прадстаўніка банка ў рэспубліцы. Прадстаўнік мае даволі шырокія паўнамоцтвы і можа весці перамовы з беларускімі ўладамі на самым высокім узроўні.**

Сусветны банк не меў свайго сталага прадстаўніка ў Беларусі з восені 1997 года. Тады ў знак пратэсту супраць невыканання Беларуссю сваіх абавязкаў перад Сусветным банкам той адклікаў свайго прадстаўніка Крыстафера Уілабі. Тады ж СБ вырашыў больш не даваць крэдытаў Беларусі і сканцэнтравацца, у асноўным, на правядзенні адукацыйных мерапрыемстваў – да таго часу, пакуль эканамічная палітыка Беларусі не зменіцца. Асноўныя патрабаванні міжнароднай крэдытнай установы да нашай краіны – лібералізацыя валютнага курсу і цэнаў, паскарэнне працэсу прыватызацыі, наданне Нацбанку самастойнасці пры правядзенні фінансавай палітыкі.

Па словах дырэктара дэпартамента Беларусі і Украіны СБ Пола Сігельбаума, банк выдзігае да беларускага ўрада адныя і тыя ж патрабаванні і імкнецца быць тым «цвіком у чаравіку», які ўвесь час нагадвае пра сябе і ў адзін дзень усё ж прымусіць Беларусь прыслухацца да рэкамендацыяў СБ.

У пятніцу новы прадстаўнік СБ у Беларусі Сяргей Кулік упершыню з'явіўся перад журналістамі. С.Куліку 40 гадоў, ён грамадзянін Украіны і мае шасцігадовы вопыт працы ў Сусветным банку. Па яго словах, ён выйграў конкурс на заняцце пасады прадстаўніка і мае сваю праграму, якая можа дапамагчы прыйсці да ўзаемапаразумення з беларускімі ўладамі. Сяргей Кулік назваў асноўныя якасці, якія яму спатрэбіцца пры дыялогу з беларускімі ўладамі, – гэта «вытрымка і цярплівасць». ■

**ДАВЕДКА НАВІНАЎ**

Сусветны банк быў заснаваны ў 1944 годзе. Асноўная мэта ягонай дзейнасці – падвышэнне ўзроўню жыцця насельніцтва краінаў праз эканамічны рост. На сённяшні дзень у СБ уваходзяць 182 краіны. Банк мае ў сваім распараджэнні 165 мільярдаў долараў. Звычайна ён выдае крэдыты на 15-20 гадоў пад 5-7% гадавых.

Беларусь уступіла ў СБ у 1992 годзе. За ўвесь час супрацоўніцтва з СБ яна атрымала 3 крэдыты на агульную суму 172 мільёны долараў. Апроч таго, Беларусь атрымала каля 15 розных грантаў ад СБ на суму 14 мільёнаў долараў.

ЗАМЕЖЖА

## Прэзідэнты-эмігранты

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Напрыканцы мінулага тыдня дэпутаты парламента Латвіі абралі новага прэзідэнта. Кіраўніком латвійскай дзяржавы стала 61-гадовая грамадзянка Канады Вайра Віке-Фрэйберга.**

Новы прэзідэнт Латвіі нарадзілася ў 1937 годзе ў Рызе. Напрыканцы Другой сусветнай вайны яна разам з бацькамі апынулася ў эміграцыі ў Заходняй Еўропе. Пасля некалькіх гадоў блукання ў па Германіі, Францыі і Марока сям'я Вайры Віке асела ў Канадзе. Будучая прэзідэнт Латвіі атрымала дыпломы магістра псіхалогіі і мовазнаўства і вось ужо шмат гадоў з'яўляецца прафесарам Манрэальскага універсітэта. Яе муж, прафесар Квебекскага універсітэта, і дачка жывуць у Канадзе, а сын разам з ёй у Латвіі.

Такім чынам, Латвія стала другой пасля суседняй Літвы прыбалтыйскай краінай, вышэйшую пасаду ў якой заняў прадстаўнік эміграцкіх колаў. Праўда, у адрозненне ад свайго літоўскага калегі Валдаса Адамкуса, абранага ўсенародна, Вайру Віке-Фрэйбергу абраў Сейм. Фрэйберга стала кампраміснай фігурай для большасці дэпутатаў пасля таго, як кандыдатуры былога высокага савецкага функцыянера Анатоля Гарбунова і кампазітара Раймонда Паўлса не набралі неабходнай колькасці галасоў.

Многія ў Латвіі і ў Літве лічаць, што прадстаўнікам заходняй эміграцыі ўдасца лепш кіраваць іхнімі краінамі, паколькі яны маюць добрыя веды і вопыт адказнай працы. Немалаважным падаецца і тое, што прэзідэнты-эмігранты не маюць сваіх уласных кланавых інтарэсаў унутры краіны, паколькі за імі не стаяць асобныя палітычныя партыі ці фінансавыя групы. «Прэзідэнты-эмігранты» таксама з'яўляюцца перакананымі прыхільнікамі заходняга шляху развіцця сваіх краінаў. У гэтым сэнсе прыбалтыйскія краіны — своеасаблівы фенамен на постсавецкай прасторы. Прэзідэнтамі там становяцца інтэлігенты-навукоўцы з Амерыкі і Канады, у той час, калі ў іншых рэспубліках колішняга СССР уладу моцна трымаюць былыя першыя сакратары ЦК кампартыяў, савецкія прамыслоўцы ці наогул дырэктары адсталых саўгасаў. Прыбалты сабе такога не дазваляюць, і гэта сведчыць аб даволі высокай палітычнай культуры тамтэйшага электарата. Зрэшты, і параўноўваць латышоў і літоўцаў з былымі «братамі» па Савецкім Саюзе не зусім дарэчна. Латышы, напрыклад, у адрозненне ад тых жа беларусаў, ніколі не лічылі СССР сваёй радзімай і не атаясамлівалі сябе з вялікай імперыяй на 1/6 частцы сушы. А тых сваіх суайчыннікаў, хто ў 1944 уцякаў ад савецкага НКВД на Захад, ніколі не лічылі здраднікамі сацыялістычнай радзімы. ■



Вайра Віке-Фрэйберга

# На гары Купала гарэла...

## Сёння ў Беларусі Купалле

Сцяпан ТУЛОЎСКІ

**«Хто не ходзіць на Купалле — бадай таго закапалі». А чаго туды ходзяць? — спытаецеся. А калі ўжо ісці, то калі і куды?**

**Даўнейшыя людзі, канешне, ведалі гэта ўсё лепш за нас, бо, жывучы бліжэй да прыроды, лепей адчувалі яе законы, чым мы. Для іх гэта было не проста ігрышча, а адзін з найважнейшых абрадаў, ад якога залежаў ураджай, дабрабыт, працяг роду. Гэты старажытны абрад быў часткай адзінай сістэмы вераванняў індаеўрапейскіх народаў.**

Калі вы хочаце трохі наблізіцца да адзінства з сіламі прыроды, страчанага людзьмі пад уплывам цывілізацыі, дык не варта хадзіць на тыя масавыя тэатралізаваныя мерапрыемствы, якія часам называюцца «Купаллем». Найперш таму, што на сапраўдным Купаллі не можна быць толькі гледачом: кожны павінен быць удзельнікам. Ды і вада Камсамольскага возера не стане гаючай нават у купальскую ноч. А для невялікага кола людзей не трэба многа месца: дзе-небудзь на ўзвышшы, на беразе ракі ці возера, каля высокага дрэва. І дазволу ўладаў на гэта прасіць таксама не трэба.

Купалле адзначаецца ў самую кароткую ноч года (звычайна гэта ноч з 21 на 22 чэрвеня). Даўней дату Купалля, як і іншых святаў, вызначалі крывы (паганскія жрацы) з дапамогай спецыяльных «абсерваторыяў», складзеных з камянёў. Дата правядзення свята зрушвалася, магчыма, у залежнасці і ад квадраў Месяца. Відаць, у старажытнасці існаваў 72-гадовы цыкл, у кожны з гадоў якога мянялася і форма правядзення Купалля. Увогуле, Купалле прыходзіцца на сярэдзіну перыяду ад пачатку русальнага тыдня да Пятра.

За час хрысціянізацыі, а пасля — ваяўнічага атэізму, страціліся веды аб значэнні многіх рытуалаў і сімвалаў. Але будзем спадзявацца, што, трымаючыся хаця б тых ведаў, што ў нас захаваліся, мы зможам хоць неяк зразумець іх сакральны сэнс. У розных месцах Беларусі Купалле праходзіла па-рознаму, у залежнасці ад мясцовых умоваў. Таксама не ўсюды аднолькава захавалася старажытная традыцыя. Найбольш звестак аб правядзенні Купалля мы маем з Паўночнай Беларусі, дзе ў старажытнасці знаходзіўся паганскі сакральны цэнтр.

Лепш за ўсё, калі ў вас ёсць распарадчыкі — Купаліш і Купалка, людзі, якія ведаюць, як і што рабіць. Найперш трэба пазначыць месца правядзення асноўнай часткі свята. Пры ўваходзе і выхадзе з гэтай прасторы выконваюцца пэўныя рытуальныя дзеянні. Распальваецца агонь (трэннем дрэва аб дрэва). На агні спальваюцца старыя рэчы, прынесеныя з дому, а таксама «май» — маладыя дрэўцы, якімі на Сёмуху (Тройцу) упрыгожвалі хаты. На жэрдцы ўздымаецца запаленае кола — сімвал Сонца (натуральна, драўлянае, а не гумовае). Гатуецца вячэра, пасля яе пачынаюцца гульні: скаканне цераз агонь, пусканне па вадзе вянкоў, рытуальные купанне, качанне па расе, карагоды, шлюбныя гульні, якія даўней былі не гульнямі, а рэальнымі шлюбамі. Нездарма з'явілася павер'е, што дзяцей прыносіць бусел, бо буслы прылятаюць з выраю якраз цераз дзевяць месяцаў пасля Купалля. Звычайна цераз агонь скакалі парамі, якія падбіраліся перад Купаллем, а жанатыя і ўдовыя не маглі скакаць цераз купальскі агонь.

Дзень перад Купаллем — найлепшы для збору лекавых траваў. У купальскую ноч — самы разгул звышнатуральных сілаў. Гэта ноч кахання і цудаў. Тады на папараць сыходзіць Перуноў агонь, яна зацвітае на некалькі імгненняў, і трэба паспець яе ўхапіць. Знайсці папараць-кветку цяжка, але тут вам можа памагчы Купальскі Дзядок. Чалавеку тады даюцца незвычайныя здольнасці, ён можа бачыць скарбы, закапаныя ў зямлю.

Купальскія спевы — свайго роду паганскія малітвы — маюць тыповы старажытны напеў, яны вясёлыя па змесце і сумныя па мелодыі. Трэба ўлічваць, што кожнай песні — свой час: адны купальскія песні пяюцца каля вогнішча, другія — каля вады, трэція — збіраючы зёлкі, іншыя — на ўзыход Сонца, і г.д. Песнямі ж выпрошваецца пагода на ноч.

«На Купалу Сонца грае» — а як гэта выглядае на справе? Лепей убачыць на свае вочы, як граючы Сонца едзе на калясніцы і рассыпае прамяні ды яскаркі. ■


Фота Ул. ШЛАПАКА/архіў

● На Купаллі нельга быць толькі гледачом


Фота Ул. ШЛАПАКА/архіў

● Твар Купалля

АДПАЧЫНАК

# Автотуристы

## Мы терпим унижение за свои же деньги!

**Летом многие белорусы направляются на отдых за пределы родной страны. Кто-то путешествует поездом, кто-то — самолетом, а кто-то — на автомобиле. Автотуризм стал очень популярен: полная независимость, приятное времяпровождение и... относительно дешево. Именно такой отдых выбрали молодые люди — Павел П., Виктор В., Андрей А. Но они не могли себе представить, с какими трудностями им придется столкнуться в самом начале своего пути. О своих мытарствах они написали письмо в НАВІНЫ.**

*Уважаемая редакция!*

Очень хотелось бы, чтобы нижеизложенное послание было опубликовано в вашей газете. Больно переживать то, что пришлось испытать нам, простым автотуристам.

В конце мая мне с другом Пашей подвернулся случай побывать в Польше в качестве туристов. Хотелось посмотреть на жизнь соседей-поляков. Поездка намечалась на легковой автомашине третьего друга. Расходы на дорогу по нашим подсчетам выходили небольшие. 21 мая вечером мы отправились в путь. Паша и я ехали в Польшу первый раз, а наш водитель Виктор был уже «старым волком» в таких поездках.

Пересечь границу с Польшей мы решили через таможенный пропускной пункт «Песчатка», что в Каменецком районе Брестской области. Наш водитель заверил нас, что проезд границы не займет много времени. Не доезжая 2 км до таможенного пункта, мы решили сделать остановку. Неожиданно к нам «подкатили» две легковушки, и четверо молодых ребят предложили за 20 у.е. помочь быстро пересечь границу. На что наш водитель ответил: «На этом КПП никогда не бывает очереди». «Это было раньше», — ответили они, но мы им не поверили.

Подъехав к колонне автомобилей, мы заняли очередь и стали ждать. Так мы простояли с 7 утра до 10 вечера и не сдвинулись ни на метр. Машин было 30-40 штук, и, по логике, мы должны были уже пересечь границу. Уплатив все сборы: ваучер — 450 тыс.руб., страховка а/м — 20 у.е., экологический сбор — 1.040.000 бел.руб., мы подошли к шлагбауму, где стоял усатый сержант милиции в полной амуниции. Какие его функции, он и сам толком не знал. Но только не наведение порядка в очереди машин. Автомобили перед шлагбаумом стояли «клином» в пять рядов вместо одного. Первоочередной проезд страж порядка отдавал местным «автотуристам», которые за наше 10-часовое томление в очереди успевало проехать границу туда и обратно по 2-4 раза. Как потом мы узнали, основной вид деятельности местных «автотуристов» — это вывоз бензина, дизтоплива, алкоголя и табачных изделий. В этой давке машины буквально царапали друг друга, пролезая к шлагбауму. Мы поняли, что с такими порядками нам не проехать границы и за сутки. Один из водителей, не выдержав этого беспредела, решил покинуть это месиво и уехать на Брестскую центральную таможню. Заплатив этому водителю определенную сумму, мы оказались в «основной очереди» десятыми. У нас появилась надежда пересечь границу в этот же день. Как оказалось позже, наши надежды были тщетны: чтобы пересечь границу, нам пришлось «жариться» в очереди ещё 7 часов.

Ещё на одно немаловажное обстоятельство следовало бы обратить внимание местным властям: отсутствие минимальных санитарно-гигиенических условий. К помещению, называемому «туалет», невозможно было подойти, не говоря о том, чтобы там что-то сделать. Все люди «ходили» в близлежащие кусты.

Пройдя все эти передряги и потеряв уйму времени, моральных сил и материальных средств, задумаешься: за что наш народ терпит такие муки, казалось бы, в простой ситуации? Или нам всю жизнь надо толкаться в очередях, терпеть унижения за свои же деньги?

...Может быть, к этому времени, когда письмо будет опубликовано, что-то изменится на данном таможенном пункте — дай Бог. Хотелось бы, чтобы на это письмо отреагировали соответствующие органы и впредь на границе такого беспорядка не было.

*С уважением,*
*Павел П., Виктор В., Андрей А.*

ПОШТА

# Настальгія

Неяк, чытаючы газеты, звярнуў увагу на ўзнёслыя словы Людмілы Маслюковай з газеты «Советская Белоруссия»: «Праздник государственной символики уже шагает по республике. И при виде стяга, реющего в весеннем небе, возникает пронзительное — до слез — ощущение гордости и благоговения».

З прыведзенай цытаты, на жаль, невядома, які сцяг выклікаў «пронзительное — до слез — ощущение гордости» ў Маслюковай, бо яна пастаянна перабягае з аднаго палітычнага боку на другі.

У 1991 годзе гістарычная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» — сталі дзяржаўнымі. Хто мог ведаць і думаць, што супраць суверэнітэту ўласнай краіны, супраць бел-чырвона-белага сцяга, які сам уносіў у Авальную залу, супраць герба «Пагоня», супраць Канстытуцыі, на якой кляўся на вернасць народу, супраць роднай мовы, на якой абвяшчаў тую клятву, будзе выступаць абраны дэмакратычным шляхам першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

Цяпер на мерапрыемствах не адразу заўважыш чырвона-зялёнае палотнішча. А калі заўважыш, не адразу зразумееш, што гэта сцяг Беларусі. Такога ж колеру татарскі сцяг і многіх іншых ісламскіх краінаў.

Гляджу на сучасны афіцыйны герб, спрабую знайсці ў ім штосьці нацыянальнае і не знаходжу. Яго папярэднік — савецкі арыгінал — таксама не меў нічога беларускага. Каб не памыліцца, дзе якой рэспублікі герб, іх проста падпісалі назвамі 15 рэспублікаў. І гістарычнага ў іх нічога не было, бо з'явілісягэтыя савецка-рэспубліканскія сцягі і гербы з дазволу Сталіна і пад яго рэдакцыяй толькі ў 1952 годзе.

Адзін з элементаў лукашэнкаўскага герба — снапы жыта. Можна падумаць, што Беларусь зерневая краіна, хлебніца Еўропы. Ці, можа, герб сведчыць, што зерне прыходзіцца купляць за мяжой, а тое, што вырошчваецца дома, у асноўным фуражнае, ідзе на корм жывёле.

Кветкі льну — можа, гэта адлюстраванне мары пра адраджэнне гэтай культуры.

Аўтары, якія распрацоўвалі сучасны герб, заклалі пэўны сэнс у яго элементы. Паўсферу, якая выглядае з-за зямнога шара, можна лічыць сонцам, але ж можна лічыць, што гэта светавая вобласць чарнобыльскага выбуху. Прамяні, якія ад яго разыходзяцца, можна лічыць радыеактыўным апраменьваннем, што пакрыла ўсю тэрыторыю краіны.

Аўтары герба размясцілі мапу Беларусі высока над зямным шарам. Беларусь быццам лунае адзінока ў беспаветранай прасторы. Гэта вельмі трапная выява. Яна сімвалізуе тое, што з-за недальнабачнай, недружалюбнай палітыкі кіраўніцтва краіны Беларусь апынулася ў блакадзе, вышturхнулася з еўрапейскай і сусветнай супольнасці.

*Ільля КАПЫЛ, пенсіянер, Мінск*



Фота IREX/ProMedia

● Наглядная агітацыя

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 562 Нумар падпісаны ў друк 21/06/99 (15:00) Наклад — 17.450